# НАРОДНЫЯ ДЗІЦЯЧЫЯ ПЕСЕНЬКІ



Мал. В. ЦІХАНОВІЧА



## КУКАРЭКУ, ПЕВУНОК

Кукарэку, певунок,
Пашый хлопцу кажушок,
Пашый штонікі з шаўкоў,
З залаценькіх пояскоў.
І пашыў ён і адзеў,
І ў люстэрку паглядзеў.

## МАЛЫ ЯГОРАЧКА

Горкай, горкай, горачкай
Шоў малы Ягорачка,
Ваўкоў не баяўся,
Страхаў не пужаўся.
Пратаптаў Ягорачка
Сцежачку да горачкі.
Выразаў Ягорачка
Дудачку-свісцёлачку
І свістаў ён птушачкай.
Горкай, горкай, горачкай
Шоў малы Ягорачка.





## ВЕРАБЕЙЧЫК

Верабейчык скача, скача:
Яму холадна, няйначай,
Бо мароз трашчыць,
Бо сняжок блішчыць.












*ТАВАРЫШ СТАЛІН І СЕРГО ОРДЖАНІКІДЗЕ*

# ГЕРАІЧНАЕ ЖЫЦЦЁ

**(З біяграфіі т. Орджанікідзе)**

Грыгорый Канстанцінавіч Орджанікідзе нарадзіўся 28 кастрычніка 1886 года ў Заходняй Грузіі, у вёсцы Горэша.

(Партыйная клічка тав. Орджанікідзе была—Серго. Гэтае імя засталося за ім на ўсё жыццё).

Бацька тав. Орджанікідзе быў бедным, малазямельным селянінам. Вучыцца Серго пачаў з сямі год. Вучыўся ён спачатку ў сваёй вёсцы ў царкоўна-прыходскай школе. Потым паступіў у чыгуначную школу ў Хашуры. Аднак вучыцца там доўга не прышлося. Беднасць сям'і прымусіла Серго кінуць вучобу і вярнуцца ў сваю вёску.

Увосень 1900 года Серго з дапамогай блізкіх сваякоў паехаў у г. Тбілісі (Тыфліс) і там паступіў у фэльчарскую школу. У фэльчарскай школе вучыліся ў пераважнасці дзеці беднаты. Сярод іх было шмат рэволюцыйна настроеных вучняў. У школе тайна ствараліся большэвіцкія гурткі. У адзін з гэтых гурткоў увайшоў і Серго.

У 1903 годзе Серго ўступіў у партыю большэвікоў.

Па сканчэнні школы Серго нейкі час працуе фэльчарам і праводзіць вялікую партыйную работу. Ён ездзіць па вёсках і мястэчках, арганізуе і вучыць рабочых і сялян, як трэба змагацца супроць праклятага царызма.

У 1906 годзе Серго быў арыштаваны паліцыяй за рэволюцыйную работу. Але праз поўгода яму ўдаецца вырвацца з царскай турмы. Серго едзе у Тбілісі. Тут ён упершыню сустрэўся з тав. Сталіным. Тав. Сталін працаваў у той час рэдактарам Тбіліскай большэвіцкай газеты.

У 1907 годзе Серго Орджанікідзе быў арыштаваны паліцыяй у другі раз. Царскі суд прысудзіў Серго на вечную ссылку ў Сібір. Аднак тав. Орджанікідзе ўцякае з Сібіры. Ён вярнуўся ў г. Баку, каб прадаўжаць рэволюцыйную работу.

У 1910 годзе Серго Орджанікідзе едзе ў Парыж да тав. Леніна. Там Серго вучыцца на спецыяльных курсах, арганізаваных тав. Леніным. Потым Ленін дае Серго вельмі важнае партыйнае даручэнне: падрыхтаваць агульнарускую партыйную канферэнцыю. Серго з поспехам выконвае заданне Леніна. На партыйнай канферэнцыі Серго выбіраецца ў члены ЦК партыі большэвікоў.

У 1912 годзе паліцыя зноў натрапіла на след Серго і арыштавала яго. Серго быў закаваны ў кандалы і адпраўлены на тры гады ў турму, пасля чаго зноў быў сасланы ў далёкую глухую Сібір.

На гэты раз толькі рэволюцыя вырвала Серго з царскага палону.



СЕРГО ОРДЖАНІКІДЗЕ—ВУЧАНЬ ПАЧАТКОВАЙ ШКОЛЫ

* * *

Вырваўшыся з царскага палону, Серго горача аддаецца партыйнай рабоце. Партыя пасылае яго на самыя адказныя работы, на самыя небяспечныя фронты грамадзянскай вайны і ўсюды Серго энергічна, цвёрда праводзіць заданні партыі—заданні Леніна і Сталіна.

Серго быў не толькі цвёрдым большэвіком, выдатным арганізатарам перамог, ён быў і бясстрашным байцом, ніколі не шкадаваў свайго жыцця для справы рэволюцыі. Вось адзін з шматлікіх прыкладаў геройства Серго ў час грамадзянскай вайны.

У ліпені 1919 года белапалякі наступалі на сталіцу Беларусі—Менск. Серго быў у гэты час членам Рэволюцыйнага ваеннага Совета XVI арміі Заходняга фронта. Наша разведка дае не зусім дакладныя весткі пра ворага. І вось у адну цёмную ноч Серго з групай чырвонаармейцаў сам ідзе ў разведку ў г. Барысаў. Ён прабіраецца ў лагер ворага, усё дакладна праведвае, і праз два дні Чырвоная Армія выгнала белапалякаў з г. Барысава.

Асабліва вялікую работу Серго праводзіць па вызваленню каўказскіх народаў. Тут ён працуе сумесна з другім вялікім рэволюцыянерам тав. Кіравым.



ТАВАРЫШ ОРДЖАНІКІДЗЕ І КІРАЎ (здымак 1920 г.).

За выдатныя заслугі ў барацьбе з белымі Серго атрымлівае ў 1921 годзе ордэн баявога Чырвонага сцягу.

* * *

Скончылася грамадзянская вайна, Серго з ранейшай сваёй энергіяй працуе над умацаваннем совецкай улады. Спачатку ён працуе ў Закаўказзі. Потым у Маскве на ад-

казнай партыйнай рабоце. Серго вядзе вялікую барацьбу з ворагамі партыі—Троцкім, Зіноўевым і інш. Ён—верны саратнік Леніна і Сталіна.

З 1930 года Серго Орджанікідзе кіруе народнай гаспадаркай Савецкага саюза. Ён увесь горача аддаецца гэтай справе. Совецкая краіна расце і мацнее з кожным днём. На палях паяўляюцца сотні тысяч трактароў, растуць велізарныя заводы, фабрыкі, электрастанцыі, расце баявая магутнасць Чырвонай Арміі. Ва ўсім гэтым вялікая доля работы нястомнага Серго—Народнага камісара цяжкай прамысловасці.

У 1934 годзе Серго за выдатную работу і поспехі ў галіне цяжкай прамысловасці ўзнагароджваецца ордэнам Леніна, а яшчэ праз два гады—ордэнам Працоўнага Чырвонага сцягу.

У кастрычніку 1936 года таварышу Серго Орджанікідзе споўнілася 50 год. Уся совецкая краіна адзначала гэты юбілей, як усенароднае свята. Увесь народ шчыра і горача любіў свайго слаўнага сына—дарагога Серго Орджанікідзе.

18 лютага 1937 года не стала любімага Серго. Орджанікідзе. Совецкая краіна страціла аднаго з сваіх лепшых людзей.



*ТАВАРЫШ ОРДЖАНІКІДЗЕ НА СУБОТНІКУ Ў 1924 г. (НА ПАБУДОВЕ ЭЛЕКТРАСТАНЦЫІ).*

# НОЧ У РАЗВЕДЦЫ

**А. АЛЕКСАНДРОВІЧ.**

Пад Барысавам палонным,
За Бярозаю ракой,
Войска Арміі Чырвонай
Сабірала сілы ў бой.

— Ледзь над лесам сонца ўзыйдзе,
Фронт прарваць, нанёсшы ўдар,—
Вырашаў Орджанікідзе
Палкаводзец-камісар.

Ноч расой паіла кветкі,
Над ракой туман стаяў,
Рапарт пятае разведкі
У гэту ноч Серго прымаў.

Як дазор, дубы-сталеткі
Засланялі грамаду.
І сказаў Серго: „У разведку
Сам, таварышы, пайду!"

І таемна, ў непрыкметку,
Цераз брод і шыр балот,
Вёў Серго атрад разведкі
Тылам ворага ў абход.

* *
*

Дзень настаў... Паўзуць сапёры,
На ваду кладуць масты.
Будзе бой! І нават зоры
Гасяць бляск свой залаты!

Знаў Серго сакрэт нядарам:
Полк байцоў адвёў тайком...
І прарваўшы фронт ударам,
Закідаў ліхім агнём.

І ў атаку—на палякаў,
На акоп—штыкамі ў лоб!
Сталлю бралі, вызвалялі
Беларускі Перакоп!

А. С. ПУШКІН

# НАД СІНІМ МОРАМ

Пераклад А. АЛЕКСАНДРОВІЧА

...Над сінім морам дуб зялёны;
На дубе залаты ланцуг:
І днём і ноччу кот вучоны
Па ланцугу вядзе свой круг;
Ідзе направа—спеў заводзіць,
Налева—казку завядзе.
Там цуда скрозь: лясун там бродзіць,
Русалка плешчацца ў вадзе;
Там на няведамых дарожках
Сляды нябачаных звярэй;
Хацінка на курыных ножках
Стаіць без вокан, без дзвярэй;
Праяў там поўны лес, даліны;
Там на світанні хвалі хлынуць
На бераг мёртвы, дзе пяскі,
І трыццаць віцязяў вячыстых
Чаргой выходзяць з хваль празрыстых,
А з імі дзядзька іх марскі;
Там каралевіч мімаходам
Палоніць грознага цара;
Там чараўнік перад народам,
І цераз лес, і цераз воды
Нясе ў высі багатыра;
Ў цямніцы там царэўна тужыць,
Ёй шэры воўк аддана служыць;
Там ступа з Бабаю-Ягой
Ідзе, брыдзе сама сабой;
Там цар Кашчэй над скарбам чахне;
Там рускі дух... там Руссю пахне!
І там я быў, і мёд я піў;
Ля мора бачыў дуб зялёны;
Пад ім сядзеў, і кот вучоны
Свае мне казкі гаварыў.

(З паэмы „РУСЛАН І ЛЮДМІЛА“)



Мал. А. Шахрая




# Ласая лісічка

Апавяданне Я. ГЕРАСІМОВІЧА
Малюнкі К. ГЕДДА

## I

Маленькая лісічка доўгі час знаходзілася пад аховай і пільным наглядам свае маткі— старой лісіцы. Яна вывелася ў глыбокай нары разам з іншымі лісянятамі. Будучы больш рухавай, яна першая вылезла з цёмнай нары наверх. Скрозь густое галлё высокіх дрэў і калючых кустоў маліны на яе ўпалі яркія сонечныя прамені. Лісічка спалохалася і палезла назад у нару.

Але з кожным разам яна рабілася больш смелай. Праз некаторы час яна пачала адыходзіць ад нары ўжо далёка, лавіла ў лесе мышэй, птушак і знішчала іх гнёзды.

У глыбіні лясных гушчараў лісічка весела забаўлялася, перабягаючы ад дрэва да дрэва паміж лясной травы і высокіх кустоў арэшніку. Тут было спакойна і ціха. Толькі высокія сосны павольна шумелі кучаравымі верхавінамі ды стракатыя дзятлы моцна стукалі дзюбамі, лазячы па шурпатых камлёх дрэў.

Усякі незвычайны стук: падзенне дрэва, або раптоўны шум ветра, прымушаў яе насторожвацца. Яна супынялася, прыпадала да зямлі, падымала ўгору тонкія вушкі і пачынала прыслухоўвацца, нюхаць паветра. Лісічка мела добры нюх і яшчэ здалёк адчувала небяспеку.

Аднаго разу, познай восенню, адпачываючы пад вываратам тоўстага дрэва, лісічка раптам усхапілася. Да яе пужліва насторожаных вушэй даносіўся небяспечны шум, трэск, невыразны гоман. Яна падняла галаву, выцягнула тонкую мордачку і адчула непрыемны пах. Да лісічкі набліжалася нешта страшнае, да гэтага часу зусім невядомае. І раптам з'явілася жаданне бегчы адгэтуль, уцякаць, схавацца, каб не чуць гэтага шуму.

Лісічка выскачыла з-пад вываратня і кінулася наўцекі. Следам за ёю заварушыліся кусты, разложыстае лісце папаратніку і нізка нахіленыя галінкі дрэў. А праз момант зусім блізка каля яе забрахаў сабака. Збянтэжаная ад страху лісічка падалася на ўзгорак у густы арэшнік, дзе знаходзіліся лісіныя і барсуковыя норы.

Ях! ях! ях!—брахаў наўздагон за перапалоханай лісічкай высокі паджары сабака. Звонкае рэха раскаціста неслася па лесе і замірала далёка ў яго нямых гушчарах.

Адчуваючы страшную небяспеку, лісічка

пусцілася бегчы з усіх сіл. Яна спадзявалася на свае быстрыя ногі і выдатны спрыт.

Але паляўнічы сабака добра ведаў лісіныя хітрыкі. Ён намагаўся ўвесь час папярэдзіць яе, збіць з тропу і не дапусціць схавацца ў нару, адкуль яе ўжо цяжка выгнаць.

Ратуючыся ад сабакі, які ўжо мерыўся схапіць яе, лісічка раптам павярнула ўлева і скочыла ў густы буралом. Яна на момант схавалася там, каб троху перадыхнуць і зноў пабегчы далей, да больш надзейнага прытулку.

Сабака спыніўся і злосна заскавытаў. Пасля гэтага ён ускочыў на тоўсты камель паваленай ёлкі і пачаў моцна брахаць.

Лісічка пільна сачыла за сабакам і разам з тым паступова аддалялася. Дабраўшыся



да крайняга лаўжа, яна саскочыла на зямлю. Сабака хутка заўважыў яе і кінуўся даганяць.

Ужо каля самага ўзгорку, дзе жоўтымі плямамі вылучаліся норы, лісічка трапіла ў новую небяспеку. Прытуліўшыся каля тоўстай сасны, стаяў чалавек са стрэльбай у руках. Воддаль яго, на тоўстым пні сядзеў хлопчык. Напружны погляд чалавека і яго стрыманы рух сведчылі аб тым, што ён заўважыў лісічку.

Барадаты твар чалавека зморшчыўся, хітрае вока прыжмурылася, у прыўзнятых руках застыла стрэльба. Ён нацэліўся.

Лісічка падскочыла, разгублена замітусілася паміж кустоў і падалася проста да нары.

Бах! Бах! —загрукацелі адзін за другім два стрэлы. Каля насыпу мільгануў рыжы хвост лісічкі і раптам знік у цёмнай глыбіні нары.

Хлопчык падняўся і безнадзейна сказаў:

— Эх, тата, як шкода, што яна ўцякла.

— Нічога, Вацік, — супакоіў хлопчыка бацька,—яна пападзецца нам другі раз. А зараз пойдзем далей, можа дзе сустрэнем зайца.

II

Усё лета куры начавалі на седале пад павеццю. Кожны вечар яны збіраліся на шырокі двор каля хаты.

Перад заходам сонца Лёлька выходзіла на ганак і пачынала іх ззываць:

— Ціп, ціп, ціп, ціп!

Пачуўшы знаёмы голас, куры адна перад адной жвава збягаліся да яе, спадзяючыся паласавацца зернем або смачнымі крошкамі хлеба.

Аднаго разу адвячоркам, ззываючы на двор курэй, Лёлька заўважыла, што няма адной, самай прыгожай курыцы. Дзяўчынка занепакоілася. Яна пачала настойліва шукаць яе: хадзіла ў агарод, на прыгуменне, заглядала ва ўсе куточкі каля будынкаў, клікала навакол, але нідзе не знайшла.

Неўзабаве прышла з работы Лёльчына маці.

—Чаго ты, Лёлька, такая сумная?—запытала яна.

— Няма нашай Зязюлькі,—адказала Лёлька.

— А дзе-ж яна?..

— Не ведаю, прапала. Усе папрыходзілі, а яе няма. Я і зранку не бачыла яе.

Маці пасварылася на Лёльку за нядбайнасць па догляду за курамі. Яна шкадавала самай лепшай нясушкі—Зязюлькі.

Лёлька, сумная і пакрыўджаная, адмовілася вячэраць і маўкліва ўзялася за кнігу.

Маці стала вязаць панчоху. Час ад часу яна пазірала на Лёльку. Урэшце запытала:

— Ці не пара табе, дачушка, спаць?

— А хіба ўжо так позна?

Маці зірнула на гадзіннік.

— Дзесяць гадзін. Лажыся, дзіцятка.

У гэты час на двары нешта бразнула. Маці схілілася да акна і пачала ўзірацца ў начную цемру.

Лёлька згарнула кнігу і насцярожылася. Да яе даносіўся падазроны шум.

— Мама, што там?

— Нічога не відаць, толькі нешта лапоча, нібы гэта куры ў хлеўчыку.

— Куры!—сказала Лёлька,—я добра чую што гэта яны.

— Трэба пайсці паглядзець, каб часамі чаго не здарылася,—сказала маці.

Пасля гэтага яна апранулася і запаліла ліхтар.

— Мама, і я пайду з табою.

— Пойдзем, толькі ахініся хусткаю, каб не застудзілася.

Яны паменшылі ў лямпе агонь і вышлі на двор. Насустрач ім дыхнуў сярдзіты вецер, ён непрыветна абдаў іх калючым холадам. Цмянае святло ліхтара невыразна асвяціла двор і спынілася на сцяне хлеўчыка. У хлеўчыку чуваць была мітусня, палахлівы крык курэй.

Падышлі бліжэй, пачалі прыслухоўвацца да шуму. Маці пры гэтым заўважыла, што маленькае акенца ў хлеўчыку, якое закладалася на-нач дошчачкаю, было адкрыта. Дошчачка ляжала на зямлі каля сцяны.

Лёлька здзівілася:

— Хто-ж гэта адкінуў дошчачку?

— Вецер,—адказала маці,—палажы яе на месца.

Лёлька падняла дошчачку і шчыльна закрыла акенца.

Пасля гэтага маці ўпэўнена адчыніла дзверцы, і яны разам з Лёлькаю ўвайшлі ў хлеўчык.

Лёлька зірнула на падлогу, крыкнула і жахліва падалася назад.

— Што-ж гэта такое? Мама, паглядзі ты!.

У куточку сядзела лісічка. Яна трымала ў зубах скрываўленага пеўня. Раптоўнае з'яўленне людзей ашаламіла яе. Яна кінулася да акенца, каб уцячы, але адскочыла,—акенца было шчыльна закрыта. Канчаткова разгубленая, лісічка перабягала імкліва з кутка ў куток, шукаючы ратунку. Калі-ж маці замахнулася на яе рукою, яна, збянтэжаная ад страху, скочыла на палічку, дзе сядзела сонная, перапалоханая трывогай курыца. Палічка заскрыпела, абарвалася і з грукатам кінулася на падлогу. Следам за ёю паляцела ўніз лісічка і трапіла проста Лёльцы на плечы.

— Ай, мама!—закрычала Лёлька і хацела выскачыць на двор, але маці спыніла яе. Лісічка ў гэты момант адскочыла ў бок. Яна залезла ў куточак і, прытуліўшыся да сцяны, пазірала на людзей бліскучымі вочкамі, поўнымі страху.

Лёлька павярнулася да маткі.

— Што-ж нам рабіць з ёю?



— Я і сама не ведаю. Трэба каго паклікаць,—адказала маці.

— Мама, я паклічу Ваціка, — сказала Лёлька.

Маці ўсміхнулася:

— Вацік не дасць рады. Лепш ідзі пакліч яго бацьку.

Лёлька выскачыла на двор. На вуліцы яна сустрэла хлопцаў, якія ішлі з комсамольскага сходу, і расказала ім пра лісічку.

З вясёлым смехам і жартамі хлопцы прышлі на дапамогу.

Высокі, шырокаплечы хлапец, Пятрусь, увайшоў у хлеўчык і запытаў:

— Дзе яна, гэта ласая лісічка?

— Вунь, у самым куточку,—паказала Лёлька.

Пятрусь асцярожна падышоў, прыгнуўся, схапіў яе за шыю і падняў угору. Лісічка, абараняючыся, пачала з усіх сіл драпаць яго лапамі і ўрэшце моцна ўкусіла за руку. Ён ускрыкнуў і кінуў яе далоў. Тады ўмяшаліся ў справу астатнія хлопцы. Яны кінуліся да лісічкі ўсе гуртам і хутка злавілі яе.

Паранены Пятрусь хацеў неадкладна забіць лісічку, але хлопцы і разам з імі Лёлька парашылі пакуль што ўстрымацца. Яны дасталі клетку, дзе раней жылі трусікі, і пасадзілі туды лісічку.

На другі дзень сабралася шмат людзей, каб паглядзець на лісічку. Яна сядзела ў клетцы і палахліва пазірала навакол, прытуліўшыся ў куточку. Час-ад часу яна ўздрыгвала ад моцнага гоману і вясёлага рогату зацікаўленых дзяцей. Дзеці дражнілі яе, паролі дубцамі, прасоўвалі ў клетку пальцы.

Вучні, якія ішлі ў школу на заняткі, спыніліся, каб паглядзець на лісічку. Разам з імі падышоў і настаўнік. Яны зацікавіліся лісічкай і пачалі прасіць Лёльчыну матку аддаць лісічку для школы. Маці згадзілася, але папярэдзіла, каб не выпускалі яе на волю. З вясёлым смехам і жартамі вучні паднялі клетку і панеслі яе да школьнага будынку. Там яны паставілі яе пад накрыццё ў дрывотнік.

У час перапынку, пасля лекцыі, вучні дасталі для лісічкі мяса, налілі ў місачку малака. Але спачатку яна нават не дакранулася да мяса. Бегаючы ў клетцы, яна абярнула місачку і выліла малако. Толькі на другі дзень лісічка адважылася з'есці мяса, калі ўжо зусім супакоілася. Потым яна ўжо пры вучнях ахвотна ела мяса, якое ёй прыносілі кожны дзень. Але як не стараліся

вучні прыласкаць яе да сябе, лісічка ўвесь час заставалася дзікай і непрыхільнай да іх.

Усю зіму лісічка сумна і маўкліва праводзіла час у цеснай клетцы. У халодныя марозныя дні яна старанна ахінала галаву доўгім пушыстым хвастом і хавала ў ім тонкую мордачку.

Калі-ж надышла вясна, лісічка занепакоілася. Яна пачала біцца аб пранты клеткі, прасоўвала паміж іх нос і рвалася на волю. Часамі, зняможаная, яна супакойвалася і лажылася адпачываць. І тады ёй сніліся родныя норы, густы цёмна-зялёны лес і глухія сцежкі.

Аднойчы, у цёплую веснавую ноч, калі ўсё навакол спала і толькі ў суседнім балоце час-ад-часу пераклікаліся сонныя птушкі ды голасна крахталі жабы, зняволеная ў клетцы лісічка раптам усхапілася. Яна скочыла на дзверцы клеткі і так моцна пачала біцца аб іх, што зашчапка не вытрымала і дзверцы адчыніліся.



Лісічка выскачыла з клеткі на волю. Спачатку разгубленая, яна ўзбегла на дровы, потым спусцілася да дзвярэй у падваротню і апынулася на школьным двары.

У паветры адчуваўся пах смалістага бору і маладое травы. Лісічка пераскочыла паркан і праз маўклівае, засланае густым туманам поле, хутка пабегла ў лес.

# ПЕСНЯ КАВАЛЯ

**Верш дзяткора КАЦУБО СТАСЯ**

Люблю я стаяць каля горна,
Люблю на кавадле каваць.
Жалеза і сталь мне пакорны,—
З-пад молата іскры ляцяць.

Раблю я плугі і бароны
Для коней гнядых, варачых...
Каб добра аралі загоны
Калгасаў, соўгасаў маіх.

Каб нівы вясновай парою
Зялёнаю рунню цвілі,
Каб людзі калгаснай сям'ёю
Шчасліва, заможна жылі.

Я горда свой мех раздуваю,
Хай ярка шугаюць агні.
Я шчасце ў жыцці сваім маю,—
Жыву у шчаслівыя дні.



# РАЗУМНАЯ ДЗЯЎЧЫНКА

### НАРОДНАЯ КАЗКА

Жылі-былі два браты: адзін багаты, другі бедны. Аднойчы ім пан загадаў тры загадкі і сказаў, хто разгадае іх, таму ён аддасць палавіну маёнтка. Пан загадаў:

„Што на свеце за ўсё мілей?
Што на свеце за ўсё сыцей?
Што на свеце за ўсё быстрэй?"

Адказ патрабаваў даць назаўтра раніцай.

Прышоў бедны брат дамоў і задумаўся. А была ў яго дачка-семігодка. Яна заўважыла, што бацька нешта сумны, і пытаецца:

— Чаго ты, тата, гэтакі сумны?

— А мне,—кажа бацька,—пан загадаў тры загадкі, і калі я адгадаю, дык ён аддасць палавіну маёнтка.

— А якія?—пытаецца дачка.

Бацька пераказаў загадкі.

— Ну, добра, тата, лажыся спаць, заўтра разгадаем. Паляглі спаць. Спіць уся сям'я, толькі адна дачка-семігодка не спіць—разгадвае загадкі. Нарэшце, яна таксама заснула.

Назаўтра раніцай устала дачка-семігодка і кажа бацьку:

— Ну, тата, ідзі да пана і скажы: на свеце мілей за ўсё сон; на свеце сыцей за ўсё зямля; на свеце быстрэй за ўсё розум.

Па дарозе бедны брат спаткаў багатага, і пайшлі яны разам да пана.

Прышлі. Паклікаў пан багатага і пытаецца:

— Ну, што на свеце мілей за ўсё?

— А, пане, у мяне ёсць жонка, дык яна мне мілей за ўсё.

Засмяяўся пан і зноў пытае:

— А што на свеце сыцей за ўсё?

— А, пане, у мяне ёсць бораў, такі сыты, што не ўстае.

— А што на свеце быстрэй за ўсё?

— А, пане, у мяне ёсць такі конь, што ён за ўсё быстрэй.

Паклікаў пан беднага, пытаецца, як жыве, смяецца. Ведама, з беднага заўсёды смяюцца.

— Што на свеце мілей за ўсё?—пытаецца пан.

— А сон, пане.

Пану цюкнула, што бедны селянін адгадаў.

— А што на свеце сыцей за ўсё?

— Ды, зямля, пане.

— А што на свеце быстрэй за ўсё?

— Розум, пане.

Тут пан спужаўся, што палавіну маёнтка патрэбна аддаць і давай пытацца, хто яму разгадаў. Доўга бядняк не прызнаваўся, але нарэшце сказаў:

— У мяне, пане, ёсць дачка-семігодка, дык яна мне і разгадала.

Пайшоў пан на кухню, узяў дзіравы гаршчок і прынёс бедняку.

— Калі твая дачка такая разумная, на гэты гаршчок і няхай яна залатае яго.

Прышоў бядняк дадому. Не паспеў ён пераступіць парог, як дачка і пытаецца, што яму сказаў пан.

— А што ён мне сказаў? Даў вось гаршчок дзіравы і кажа, каб ты залатала.

— На, тата, гэты гаршчок, занясі яго назад пану і скажы, каб пан спачатку вывернуў яго, а то з ліцавой стараны не латаюць.

Пайшоў бядняк да пана і сказаў так, як вучыла яго дачка. Тут пан ажно за вухам пачухаў. Выходзіць, што дачка бедняка разумнейшая за яго. Вось ён і кажа бедняку:

— Скажы сваёй дачцы, каб яна да мяне не ішла і не ехала, не голая і не адзетая, каб дарыла і не надарыла.

Прышоў бядняк дамоў і расказаў пра гэта дачцы. Пайшла дачка на двор і злавіла вараб'я, пашыла кашулю з сеткі, узяла казла і павяла пад панскі двор. Села на яго, едзе і нагамі аб зямлю апіраецца (і не едзе і не ідзе), не голая і не адзетая. Убачыў гэта пан, вышаў на ганак, а дзяўчынка стала дарыць пана вераб'ём. А верабей—пырх і паляцеў: і дарыла яна і не надарыла.

Што-ж, рабіць няма чаго, перахітрыла пана бядняцкая дачка.

Запісаў **Рунец П.**



**Малюнкі А. Шахрая**



# КОНІК



**Верш Л. КВІТКО**

**Рысункі К. ГЕДДЫ**

Не чуў уначы
За дзвярыма калёс,
Не ведаў, што коніка
Тата прывёз.

Каня варанога
З чырвоным сядлом,
Чатыры падковы
Гарацъ серабром.

І тата лёг спаць,
Не гасіўшы агня,
На столік паставіўшы
Моўчкі каня.

Гарыць на стале
Адзінокі агонь,
Глядзіць асядланы
На хлопчыка конь.

І толькі акно
Асвяціла зарой,
Як хлопчык прачнуўся
Ў пасцельцы сваёй.

Узняўся, апёршыся
Ўвесь на далонь,
І бачыць: стаіць
Найцудоўнейшы конь—

Прыбраны і новы,
З чырвоным сядлом,
Чатыры падковы
Гарацъ серабром.

Адкуль ён узяўся?
(Нікога вакол).
І як ухітрыўся
Ўзабрацца на стол?

І хлопчык на цыпачках
Стаў падхадзіць,
І вось ужо конь
На падлозе стаіць.

Ён гладзіць загрывак,
Сядло і жывот,
Прысеўшы, ён мацае
Ногі і хвост.







Бярэ ён за повад—
І конік бяжыць.
Кладзе яго бокам—
І конік ляжыць.

Глядзіць на каня
І задумаўся ён:
Заснуў я, і, мабыць,
Прысніўся мне сон.

Адкуль гэты конік
Прышоў да мяне?
Я коніка бачыў
Няйначай у сне.

Пайду я і маму
Сваю пабуджу,
Устане—я коніка
Ёй пакажу!

Ідзе ён да мамы
Каня паказаць,
А зморанай маме
Так хочацца спаць.

Пайду к Кузмічу я,
К суседу свайму,
Пайду і пастукаю
Ў дзверы яму!

— Сусед, адчыніце,
Па важнаму я!
Я вам пакажу
Варанога каня.

Сусед яму кажа;
— Я бачыў яго.
Даўно ужо бачыў
Каня я твайго.

— Напэўна ты бачыў
Другога каня.
У нас ты не быў
З учарашняга дня.

Сусед яму кажа:
— Я бачыў яго,—
Чатыры нагі
У каня у твайго.

Але-ж ты не бачыў,
Сусед, яго ног.
Ніколі не бачыў
І бачыць не мог!

Сусед яму кажа:
— Я бачыў яго,—
Два вокі і хвост
У каня у твайго.

— Не бачыў хваста,
Ні вачэй ты, маўчы!
Стаіць ён, а дзверы
Усё-ж на ключы.

Сусед пазяхае,—
Лянуецца ўстаць,
І болей ні слова
Не хоча сказаць.





# НЕЗВЫЧАЙНАЯ КОШКА

Апавяданне В. ЧАПЛІНАЙ

Гэта было не зусім звычайнае кацяня. Нядаўна народжанае, яно было ростам не большае за пацука. Пачынаючы з кончыка носа і канчаючы хвастом—усё пакрыта чорнымі плямамі. Як быццам яго хто апырскаў чарнілам. Яго матка леапард „Маруська“ жыве ў заапарку і зараз, а яе маленькае дзіцё ў мяне дома.

Першыя чатыры дні маці даглядала яго, сагравала, а потым у яе прапала малако. Каб малы не памёр з голаду, прышлося яго ўзяць дахаты.

Дома новага пітомца сустрэлі па-рознаму. Скардзілася на кухні хатняя работніца Маша: „Усёроўна жыць у вас не буду. У сталых людзей кошкі ды сабакі жывуць, а ў нас ільвы, леапарды нейкія“.

Затое мой сын Толя быў у захапленні. Ды і як не захапляцца? Ці ёсць-жа хоць у аднаго хлопчыка такі звер?

А Толін дзед перанёс у гэту ноч пасцель на другі канец пакоя. Хоць маленькі леапард і бяззубы, а ўсё-ж звер—раптам накінецца і загрызе.

Назвалі мы новага пітомца „Клапоткам“. А клопату з ім сапраўды было нямала. За тыя некалькі дзён, якія ён пражыў з маткаю, леапардзік паспеў прывыкнуць да яе паху, малака. І цяпер ніяк не хацеў піць кароўяга, ды яшчэ з соскі. Што я толькі не рабіла.

Давала з соскі, улівала ў рот—нічога не памагала. Тады я парашыла спрабаваць яшчэ адзін спосаб. Завінула дзіцё ў нагрэтае гарачымі бутэлькамі футра, што павінна было напомніць яму матку, потым макнула палец у малако і сунула яму ў рот. Спачатку „Клапотка“ упіраўся, потым лізнуў язычком раз, другі і раптам, хутка перабіраючы лапкамі, смачна зацмокаў. Тады я замест пальца дала яму скручаны, падобны на соску кавалачак мяса.

Нялёгка было мне ў гэтыя дні: колькі раз прыходзілася макаць кавалачак мяса ў малако і ўкладваць у рот леапардзіку, каб напаіць дасыта! І гэтак да таго часу, пакуль „Клапотка“ не адужаў. Тады я ўзяла ў карміліцы сабаку Майку. Трапіўшы ў пакой у незвычную для яе абстаноўку, Майка так засумавала, што нават не заўважыла, як замест тоўстага, белага шчаняці ў нас аказалася падазрона плямістае і з такім гучным, як у дзіцяці, голасам. Разабралася Майка ў гэтым толькі на другі дзень. Прыслухоўвалася да яго крыку, здзіўлена вадзіла вушамі, прынюхвалася, але другія шчаняты паспелі перадаць ужо свой пах яму, і Майка заспакоілася. Зараз Майка ўжо лічыць пітомца сваім—корміць, ліжа, даглядае, а калі хто са знаёмых працягне к яму руку ці хоча ўзяць,—кідаецца на абарону.

Цяпер Клапотка ростам з вялікую кошку. І такі забаўны, прыгожы. Чаго ён толькі не вырабляе, калі пачынае гуляць, куляцца праз галаву, качацца на спіне, усюды лазіць, усё цягне. Выйдзе Маша з пакою—усё ў парадку. Прыдзе—настольнікі на падлозе, падушкі таксама і раскідана ўсё, што можна дастаць.

Зазлуе Маша, закрычыць, а балаўнік ужо аб ногі трэцца, на рукі просіцца, ну як сцярпець тут—не пагладзіць! Кіпцюры ў Клапоткі гострыя, балюча драпае ён чужых, але сваіх не чапае. Асцярожна, не выпускаючы іх, гуляе ён з Толінай рукою, возіцца ў яго грузавіку, ловіць кінуты ім мячык. Толя вельмі любіць Клапотку, а Маша перастала пагражаць, што пакіне нас і нават ганарыцца, што ў нас такая незвычайная кошка.

# ВОЎК І ВАЎЧЫЦА

### КАЗКА-ЗАГАДКА

**Заспрачаліся аднаго разу воўк і ваўчыца.**

**Ваўчыца кажа:**

**— Дрэнна табе, воўк, жывецца.**

**— Чаму—дрэнна?—пытаецца воўк.**

**— А вось чаму,—адказвае ваўчыца:—ты заўсёды туляешся па кустах, бо цябе кожны ўбачыць можа. А я вось магу па чыстым полі хадзіць і мяне ніхто не ўбачыць.**

**— Лжэш,—кажа воўк,—няпраўда гэта.**

**— Ну, як сабе хочаш: хочаш вер, хочаш не. А я кажу праўду.**

**— Калі так, давай праверым. Я схаваюся ў кустах, а ты выйдзі на поле, дзе сяляне аруць.**

**— Добра.**

**Схаваўся воўк у кустах, а ваўчыца вышла на поле.**

**Тут людзі і паднялі крык: „Воўк! воўк! воўк!“**

**Пачуў гэта воўк, што яго ўспамінаюць, ды драла з кустоў у лес.**

**„Вось,—думае сабе,—дзіва: ваўчыца па полі хадзіла і яе не бачылі, а я ў кустах сядзеў і мяне ўгледзелі“.**

**Як гэта здарылася?**

**Прыслаў дзяткор Ф. Карнушэнка.**

Л. Н. ТАЛСТОЙ

# Сава і заяц

Змяркалася. Сталі совы лятаць у лесе па канаве, выглядаць здабычу.

Выскачыў на прагалінку вялікі заяц-русак, стаў прыхарашвацца. Старая сава паглядзела на русака і села на сук; а маладая сава кажа:

— Што-ж ты зайца не ловіш?

Старая кажа:

— Не па сіле, — вялікі вельмі: ты ў яго ўчэпішся, а ён цябе завалачэ ў гушчар.

А маладая сава кажа:

— А я адной лапай учаплюся, а другой хутчэй за дрэва схаплюся.

І кінулася маладая сава за зайцам, учапілася яму лапай у спіну так, што ўсе кіпцюры залезлі, а другую лапу падрыхтавала за дрэвы зачапіцца. Як павалок заяц саву, яна ўчапілася другой лапай за дрэва і думала: „не ўцячэ“. Заяц рвануўся і разарваў саву. Адна лапа асталася на дрэве, другая на спіне ў зайца.

На другі год паляўнічы забіў гэтага зайца і дзівіўся таму, што ў яго на спіне былі заросшыя савіныя кіпцюры.





# ІШАК І МУРАШКА

ДАГЕСТАНСКАЯ КАЗКА

Сустрэў ішак мурашку.

— Адкуль ты паўзеш, мурашка?—спытаў ішак.

— З лагчыны.

— А якое там жыццё? Лепш чым на гарах.

— Ну куды там! Там трава вышэй росту,—адказала мурашка.

Узрадаваны ішак стаў спяшацца ў лагчыну. Дабраўся ён да лагчыны і бачыць: трава яму ледзь-ледзь капыты закрывае.

Раззлаваўся ішак на мурашку.

— Эх, ашукала мяне мурашка! Дзе-ж тут трава вышэй росту?—і пабег назад у горы

Зноў сустрэў мурашку.

— Ну, быў ты ў лагчыне? — спытала мурашка.

— Не было па што мяне туды пасылаць!—адказаў злосна ішак. — Дзе-ж там трава вышэй росту, калі ледзь капыты прыкрывае.

— Эх ты, дурань! Я-ж траву мерала на свой рост! – рассмяялася мурашка.

ІСКРЫ ІЛЬІЧА

ШТОМЕСЯЧНЫ ЖУРНАЛ ДЛЯ АКЦЯБРАТ І ВУЧНЯЎ МАЛОДШЫХ КЛАСАЎ

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСВЕТЫ
ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗМЕНА"

САКАВІК 1937 г. № 3

ЦАНА 30 КАП.



### ЖАРТЫ

— Што ты там шукаеш у клубку?
— Я шукаю канца.
— Дык я-ж яго адрэзала сёння раніцай.

*

— Аддай мой мяч.
— Я яго не браў.
— Як не браў? Вось ён, у цябе ў руках.
— Гэта не твой. Твой быў куды меншы.
— Няпраўда. Ен быў нават большы за гэты.

# ПРА ВАЎКА, КАЗУ І КАПУСТУ

Вёз адзін чалавек ваўка, казу і капусту. Воўк усё хоча казу з'есці, а каза капусту. А ён ім не дае. Прыехаў да рэчкі. Трэба яму перавозіць іх на той бераг. А човен маленькі, больш як дваіх не возьме: або яму браць з сабою ваўка, або казу, або капусту. Прыдзецца некалькі раз ездзіць. Задумаўся чалавек: „як-жа мне іх перавезці, каб бяды не вышла. З ваўком паеду—каза капусту з'есць. З капустай паеду—воўк казу з'есць. Казу павязу—а на другі раз як зрабіць?"

Дапамажыце, рэбята, чалавеку перавезці на другі бераг ваўка, казу і капусту.



# АСІЛАК

Гэты асілак трымае ў кожнай руцэ па вяроўцы. Восем чалавек цягнуць вяроўкі ў розныя бакі. Здавалася-б яны разарвуць асілка. Аднак не: асілак толькі злёгку хістаецца з боку на бок. Што гэта за незвычайны такі асілак?

---

Такім асілкам можа быць кожны. Тут ніякай сілы не патрэбна. Проста здагадлівасць патрэбна. На самай справе ў асілка не дзве вяроўкі, а адна, прадзетая пад адзежай праз рукавы. Здалёк здаецца, што ён трымае ў кожнай руцэ па вяроўцы. Цяпер вам ясна, што адна чацвёрка рэбят перацягвае другую, асілак-жа стаіць на месцы. Вось і ўсё.



Рэдактар А. ЯКІМОВІЧ    Афармленне В. ЦІХАНОВІЧА    Адрас рэдакцыі: МЕНСК, ДОМ ДРУКУ
Друкарня імя Сталіна    20000 экз.    Зак. № 346.    Галоўлітбел № 117.